ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 15 (2365) 14 красавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.
Цана 100 рублёў.

*ТАВАРЫСТВУ "РАДЗІМА" — 30 ГАДОЎ!*

## МЫ - БЕЛАРУСАМ, БЕЛАРУСЫ - БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

30 гадоў з дня заснавання адзначае Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма"). Час гэты ў гістарычным плане нібыта невялікі, але і немалы, калі ўлічваць імклівасць грамадска-палітычных падзей, якія адбыліся за гэты перыяд. Ад "хрушчоўскай адлігі", калі было створана таварыства, праз застойныя часы да пачатку "гарбачоўскай перабудовы" і сённяшняга нялёгкага для ўсіх нас жыцця прайшло ў сваёй дзейнасці таварыства "Радзіма". Заснавальнікамі таварыства былі прадстаўнікі шырокай беларускай грамадскасці, сярод якіх — вядомыя беларускія дзеячы Рыгор Шырма і Максім Танк. Менавіта Р. Шырма быў абраны першым старшынёй таварыства і на працягу многіх гадоў узначальваў яго. У 1978—1991 гадах старшынёй таварыства з'яўляўся народны мастак Беларусі Міхаіл Савіцкі. На рэспубліканскай канферэнцыі таварыства ў кастрычніку 1991 года старшынёй праўлення таварыства выбраны кампазітар Сяргей Картэс.

Гады станаўлення таварыства прыпалі на часы ідэалагічнага супрацьстаяння паміж Захадам і Усходам. І, вядома, ідэалагічны аспект прысутнічаў у тагачаснай дзейнасці таварыства. Як сведчыць першы статут "Радзімы", які быў прыняты 28 красавіка 1964 года, галоўнай яе задачай было "развіццё і наладжванне культурных сувязей з замежнымі суайчыннікамі, азнаямленне іх з жыццём беларускага народа і яго поспехамі ў будаўніцтве сацыялістычнага грамадства". Але ідэалагічныя стэрэатыпы не дазвалялі таварыству наладжваць сувязі з рознымі плынямі беларускай эміграцыі, асабліва з той, якая па волі лёсу аказалася на чужыне падчас ці напрыканцы Вялікай Айчыннай вайны. Таму і дзейнасць таварыства была ў асноўным скіравана на развіццё сувязей з арганізацыямі нашых суайчыннікаў, якія прытрымліваліся прасавецкай арыентацыі. Такі быў час, такія падыходзі з боку ўлад існавалі, як вядома, да ўсіх грамадскіх арганізацый рэспублікі.

(Заканчэнне на 5-й стар.).

## Бутрас ГАЛІ АБЯЦАЕ АСАБІСТУЮ ПАДТРЫМКУ



**Для Беларусі надта важна, каб сусветная супольнасць не забылася пра Чарнобыль. Таму візіту ў Мінск генеральнага сакратара ААН Бутраса Галі, які адбыўся 5--7 красавіка, надавалася вялікае значэнне і ўскладаліся на яго такія ж вялікія спадзяванні. Можа яны і спраўдзяцца, бо генеральны сакратар абяцаў сваю асабістую падтрымку і запэўніў кіраўнікоў нашай дзяржавы, што не дапусціць, каб чарнобыльская праблематыка была знята з парадку дня Генеральнай Асамблеі ААН. Як паведаміў міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, поўную падтрымку Бутраса Галі атрымалі нашы прапановы па двух чарнобыльскіх праектах. Першы -- на 12 мільёнаў долараў -- аб правядзенні пастаяннага радыелагічнага маніторынгу тэрыторыі рэспублікі. Другі -- на 8 мільёнаў долараў -- аб падрыхтоўцы праекта будаўніцтва фабрыкі чыстых прадуктаў для дзіцячага харчавання.**

**НА ЗДЫМКУ: у час перагавораў Бутраса ГАЛІ з міністрам замежных спраў П. КРАЎЧАНКАМ.**

З ГІСТОРЫІ СЛАВУТАГА РОДУ

## КНЯЗІ АГІНСКІЯ Ў ВІЦЕБСКУ



Агульнавядома, што прадстаўнікі княжацкага роду Агінскіх у XVI--XVIII стагоддзях адыгрывалі значную ролю ў жыцці Вялікага Княства Літоўскага. Імёны дзяржаўных дзеячаў, ваяроў, мецэнатаў, музыкантаў, што паходзілі з гэтага роду, складаюць гонар і славу Беларусі.

Якое дачыненне мелі князі Агінскія да Віцебска? Аказваецца, самае непасрэднае. Чатыры пакаленні славутага роду жылі ў гэтым горадзе. Першым з вядомых нам віцебскіх Агінскіх быў князь Леў Самуіл. Пляц і дом пана Самуіла Агінскага "ў замку яго каралеўскай мосці Віцебскім Ніжнім" згадваецца ўжо ў дакументах 1627 года.

Што гэта быў за чалавек? Чым захапляўся? Як выглядаў? На жаль, мы сёння не можам адказаць на ўсе гэтыя пытанні, бо вельмі мала старых дакументаў захавалася да нашага часу. Аднак сёе-тое з асобе князя прагладаецца нават скрозь тоўшчу стагоддзяў. Так, у 1642 годзе Самуіл Агінскі і яго жонка Соф'я Бялевічава зрабілі фундушовы запіс на аднаўленне праваслаўнага Маркава манастыра ў Віцебску, за што імя князя было ўпісана ў манастырскі сінодзік побач з імем манаха Марка -- заснавальніка манастыра. Пабожнасць была ўвогуле ў традыцыях усёй сям'і Агінскіх. Бацька Самуіла князь Багдан, напрыклад, пасля закрыцця віленскай друкарні пры манастыры Святога Духа ў сваім маёнтку Еўе наладзіў выпуск кніг дыдактычнага і рэлігійнага зместу. Таму зусім не выпадковымі трэба лічыць словы панегірыка, напісанага ў 1641 годзе на старажытны герб роду Агінскіх:

**Крест роздартый гойности знаком завше бывал,**
**Месяц з звездою к небу дорогу указывал,**
**Врембов до фундаменту церкви заживано, --**
**Стрелами засъ Отчизны значне оброняно.**
**Тым клейнотом Огинские здавна ся щитили,**
**Гдыж Богу, церкви верне Отчизне служили.**

У Самуіла Агінскага было два сыны і чатыры дачкі. Аднаму з сыноў -- Сымону Каралю -- наканавана было стаць віцебскім падкаморым і пэўны час жыць у Віцебску. Гэта быў адукаваны чалавек, напачатку ён вучыўся ў Кракаўскім універсітэце, а пазней -- у Галандыі, ва універсітэце горада Франекер. Там жа ў 1644 годзе Сымон Караль узяў шлюб з дачкой бургамістра Ц. Стаакманс. Па меркаванні сп. Т. Васілеўскага, карціна славутага галандскага мастака Рэмбранта Харменса ван Рэйна "Лісоўчык" (або "Польскі вершнік") з'яўляецца партрэтам Сымона Караля Агінскага. Яна была выканана каля 1655 года і зараз захоўваецца ў зборы Фрык у Новым Ёрку.

Дзякуючы шчасліваў выпадковасці, мы можам сёння бачыць, як выглядаў дом, у якім жыў у Віцебску Караль Сымон Агінскі. Выява яго захавалася на "Чарцяжы места Віцебска" 1664 года, які ў свой час быў зроблены рускім ваяводам Якавам Валконскім і адпраўлены на зацвярджэнне ў Маскву да цара Аляксея Міхайлавіча. У маскоўскіх архівах "Чарцёж" праляжаў да пачатку XX стагоддзя, дзе яго і знайшоў даследчык віцебскіх старажытнасцей А. Сапуноў. Дом Агінскага знаходзіўся ў раёне сучаснай плошчы Свабоды, на пачатку праспекта Фрунзе. Адна з вежаў Ніжняга замка, што ў свой час размяшчалася насупраць будынка, насіла назоў Княжай, што ўжо само па сабе з'яўляецца сведчаннем дрўгатэрміновасці існавання княжацкай рэзідэнцыі на згаданым месцы.

Нельга не падзівіцца на адметнае архітэктурнае аблічча дома Агінскага. Высокая шмат'ярусная вежа, завершаная шатром і складаным купалам са шпілем ды сцяжком флюгера над ім, высокая знадворная лесвіца ганка, што вяла да гранёнай ярусней вежы з шатровым завяршэннем, адкрытыя ажурныя галерэі, ступенчаты абрыс трохвугольнага шчыта -- усё гэта ствараля непаўторны і надзвычай цікавы выгляд будынка, які на працягу XVII--XVIII стагоддзяў з'яўляўся своеасаблівым архітэктурным сімвалам Віцебска. Згадкі некаторых даследчыкаў пра тое, што дом Агінскага існаваў яшчэ ў сярэдзіне XIX стагоддзя і быў вядомы пад назвай "дома з купалам", з'яўляюцца памылковымі. Так званы "дом з купалам" быў пабудаваны ў першым дзесяцігоддзі [illegible] стагоддзя віцебскімі езуітамі побач або на падмурках былога дома Агінскіх. У ім размяшчалася езуіцкае вучылішча, дзе апроч класаў і кабінетаў у круглай зале верхняга паверха знаходзіўся тэатр. "Дом з купалам" быў зруйнаваны ўжо к канцу XIX стагоддзя.

Нягледзячы на тое, што князь Караль Сымон Агінскі сам стаў уніятам, згодна з тэстаментам бацькоў ён працягваў клапаціцца аб лёсе праваслаўнага Віцебскага Маркава манастыра. Ён цалкам аднавіў тут знішчаную пажарам 1690 года драўляную царкву ў гонар Св. Тройцы, што раней была пабудавана на сродкі яго бацькі.

**НА ЗДЫМКУ: герб князя Льва Самуіла Агінскага.**

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ТАКАЯ ВОСЬ СТАТЫСТЫКА*

### КОЛЬКІ КАШТУЕ ПРЭЗІДЭНТ

**Прэзідыумам Вярхоўнага Савета Беларусі зацверджана сума расходаў на падрыхтоўку і правядзенне выбараў прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.**

**Як лічаць у Цэнтральнай выбарчай камісіі, пры сярэднемесячных тэмпах інфляцыі 25 працэнтаў, на выбары прэзідэнта пойдзе не менш 126 532 111 000 беларускіх рублёў. Расходы на правядзенне перадвыбарнай агітацыі кандыдатам у прэзідэнты Рэспублікі Беларусь (выданне плакатаў, арэнда памяшканняў і да т.п.) запланаваны ў 300 мільёнаў рублёў, але -- па 20 мільёнаў на аднаго кандыдата. Значыць, Цэнтральная выбарчая камісія мяркуе, што кандыдатаў у прэзідэнты будзе не менш 15.**

**Дзяржаўнаму камітэту па тэлебачанню і радыёвяшчанню даручана прадставіць у Цэнтральную выбарчую камісію па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ліміт часу для выступленняў кандыдатаў у прэзідэнты на рэспубліканскім і мясцовым тэлебачанні і радыёвяшчанні. Ліміт гэты ў разліку на аднаго кандыдата павінен быць не менш, чым 2,5 гадзіны тэле- і радыёэфіру.**

*ВАЛІ НА ЗУБРА*

### ФІГУРА, "НАЙБОЛЬШ СУПЯРЭЧЛІВАЯ"...

**Прэс-сакратар Старшыні Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Уладзімір Замяталін назваў магчымую кандыдатуру экс-спікера Станіслава Шушкевіча на пасаду першага беларускага прэзідэнта "як найбольш супярэчлівую, непаслядоўную і схільную да палітычнага какецтва". Прэс-сакратар заявіў: "...неабгрунтаваныя скаргі Шушкевіча на "антыдэмакратычны" характар Закона аб выбарах прэзідэнта рэспублікі -- не што іншае, як чарговая спроба ўвесці грамадскасць у зман, у чым дабіўся поспеху Станіслаў Станіслававіч".**

**Як адзначыў Уладзімір Замяталін, "менавіта экс-спікер дэмаралізаваў Вярхоўны Савет, ператварыўшы яго з заканадаўчага органа ў дыскусійны клуб. Менавіта дзякуючы яму новая Канстытуцыя прымалася на працягу двух гадоў, а працэс яе абмеркавання быў давецзены да крайняй ступені абсурду. (Дзіўна, за што дзякаваў М. Грыб стваральнікам Канстытуцыі і сярод іх С. Шушкевічу). Толькі па пратэкцыі Шушкевіча быў прыняты Закон аб нацыянальных меншасцях, які ўскосна паставіў пад сумненне роўнасць правоў усіх грамадзян Беларусі, абвешчаную ў Законе аб грамадзянстве".**

*ЧАЛАВЕК І ТРАНСПАРТ*

### ПЕРАВАГА — ПОЕЗДУ

**Рэспубліканская праграма функцыяніравання і развіцця пасажырскага транспарту ва ўмовах фарміравання рыначных адносін прадугледжвае прыярытэтнае развіццё да 2000 года чыгуначнага транспарту. Згодна з праграмай, аб'ём перавозак па чыгунцы ў прыгарадных зносінах складзе 143 працэнты да ўзроўню 1990 года, у далёкіх зносінах -- 131 працэнт. У гарадах значнае развіццё атрымае электратранспарт. Запланавана стварыць скарасную маршрутную сетку паміж Мінскам і абласнымі цэнтрамі.**

*ВЯЛІКДЗЕНЬ*



**3--4 красавіка католікі Беларусі ўрачыста адзначылі Вялікдзень. Пра тое, што гэта традыцыйнае хрысціянскае свята адраджаецца зноў, сведчаць настрой людзей, поўныя касцёлы, дзе праз ноч з суботы на нядзелю адбывалася набажэнства. А тыя, хто не мог разам з аднаверцамі быць у храме, не адчувалі сябе самотнымі, бо ўпершыню на Беларусі Рэзурэкцыя -- урачыстае велікоднае набажэнства -- трансліравалася па Нацыянальным тэлебачанні. Адпраўляў яго ў Мінскім катэдральным касцёле Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі Казімір Свёнтэк. Набажэнства адбывалася на беларускай мове. Як гэта было натуральна і міла!..**

**НА ЗДЫМКУ: свенцяць велікодную ежу.**

*УШАНАВАННЕ*



**Сродкі масавай інфармацыі Беларусі і пэўныя колы грамадскасці адзначылі 80 год з дня нараджэння вядомага дзяржаўнага дзеяча рэспублікі, былога камуністычнага лідэра Кірылы Мазурава.**

**Кірыла Мазурава, які некалькі год працаваў Першым намеснікам Старшыні Савета Міністраў СССР, а потым быў адсунуты ад улады, страціў ласку Л. Брэжнева, ведаюць як чалавека, які, наколькі гэта дазваляла сістэма, бараніў перад Масквой інтарэсы Беларусі. 7-га красавіка ў Мінску на доме па вуліцы К. Маркса, дзе доўгія гады жыў К. Мазураў, была ўстаноўлена мемарыяльная дошка. У цырымоніі яе адкрыцця прыняў удзел Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Вячаслаў Кебіч.**

*САДРУЖНАСЦЬ*

### "ЛЮБЛІН" З КАНВЕЕРА БелАЗа

**На Беларускім аўтамабільным заводзе ў Жодзіне сабраны першы беларускі міні-грузавік "Люблін". Праект ажыццяўляецца пры садзейнічанні Люблінскага аўтазавода ў Польшчы.**

**У гэтым годзе плануецца сабраць 300 "Люблінаў" з пастаўляемых суседзямі вузлоў. У бліжэйшы час пры вытворчасці грузавіка пачнуць выкарыстоўвацца айчынныя камплектуючыя. Гэта дазволіць знізіць яго кошт, хаця ён і цяпер у паўтара раза ніжэйшы за заходнія машыны падобнага класа.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

МІНСКАЕ вышэйшае ваеннае каманднае вучылішча ў 1995 годзе стане Ваеннай акадэміяй Узброеных Сіл Рэспублікі Беларусь. Першымі яе слухачамі стануць 55 беларускіх афіцэраў. Асобая ўвага будзе звернута на вывучэнне замежных моў, на якія адводзіцца 15 працэнтаў вучэбнага плана.

31 КРАСАВІКА ў Беларусі пачалася выдача насельніцтву прыватызацыйных чэкаў. Як паказваюць грунтоўныя сацыялагічныя даследаванні, 71,2 працэнта апытаных лічаць, што чэкавая прыватызацыя будзе праходзіць з вялікімі цяжкасцямі, 18,5 працэнта рэспандэнтаў прадракаюць правал кампаніі і толькі 5,5 працэнта вераць у яе поспех.

НА ПАЧАТКУ красавіка ў 2,5 раза павысіліся цэны на білеты на цягнікі далёкага следавання. Праезд у купэйным вагоне ад Мінска да Масквы цяпер будзе каштаваць каля 40 тысяч рублёў, да Брэста -- 24 тысячы рублёў. Аднак кіраўніцтва Беларускай чыгункі "суцяшае": каб пасажырскія перавозкі акупляліся, білеты павінны падаражэць у 8--10 разоў.

ПРЭЗІДЫУМ Вярхоўнага Савета Беларусі надаў званні: народнага пісьменніка -- Івану Чыгрынаву, народнага артыста -- Міхаілу Фінбергу, кіраўніку Дзяржаўнага канцэртнага аркестра, заслужанага работніка фізічнай культуры і спорту -- Ігару Жалязоўскаму, славутаму канькабежцу.

БЕЛАРУСКІ гуманітарны адукацыйна-культурны цэнтр, які традыцыйна вызначае Чалавека года, назваў свайго абранніка. Ім стаў 37-гадовы Мікалай Статкевіч -- кіраўнік забароненага ўладамі Беларускага згуртавання вайскоўцаў.

КРЫМІНАЛЬНЫ вояж зрабіла ў нашу рэспубліку жыхарка ўкраінскага горада Ковеля К. Яна была затрымана супрацоўнікамі міліцыі пры спробе збыць фальшывую купюру вартасцю 50 тысяч расійскіх рублёў. Пры вобыску ў яе знайшлі яшчэ 193 такія купюры. Гэта беспрэцэдэнтны па сваіх маштабах выпадак у нас у рэспубліцы. Следчыя органы цяпер заклапочаны выяўленнем вытворцы фальшывак.

*ДЭМАГРАФІЯ*

### НАС СТАНОВІЦЦА МЕНШ

**Паводле даных Дзяржкамстата Беларусі, у студзені гэтага года ў рэспубліцы ўбачылі свет 8 617 немаўлят. За гэты ж месяц па розных прычынах памерлі 10 914 чалавек, прычым ад выпадковых атручэнняў алкаголем -- 174, выпадковых утапленняў -- 36, самазабойстваў -- 215, забойстваў -- 81 чалавек.**

*ЗВАРОТ*

### "ТРАСЦЯНЕЦ": "НІХТО НЕ ЗАБЫТЫ, НІШТО НЕ ЗАБЫТА"

Гісторыка-мемарыяльны фонд "Трасцянец" выступіў са зваротам да грамадскасці Беларусі, каб год ад мая 1994 да мая 1995 лічыць Годам памяці ахвяр вайны і генацыду, ачышчэння ад насілля і жорсткасці, Годам грамадзянскага прымірэння і згоды ў краіне дзеля станаўлення дэмакратычнай, незалежнай, бяз'ядзернай Рэспублікі Беларусь. Гэты заклік набывае падтрымку ў грамадзян Беларусі, шэрагу дзяржаўных і грамадскіх структур. Міністэрства культуры і Акадэмія навук Беларусі ўхвалілі пачын фонду "Трасцянец", і цяпер яго ініцыятыву разгледзіць Прэзідыум Вярхоўнага Савета.

Працягваецца карпатлівая праца па збору і даследаванню дакументаў і матэрыялаў аб лагеры смерці "Трасцянец", які быў створаны нямецка-фашысцкімі акупантамі ў ваколіцах г. Мінска ў 1942 годзе і стаў месцам гібелі, па розных звестках, ад 206 да 546 тысяч чалавек. У цяперашні час грамадскасці, на вялікі жаль, амаль зусім невядомы дакументы і матэрыялы аб "Трасцянцы", трэцім па маштабах знішчэння людзей у сістэме фашысцкіх лагераў смерці.

У гэтай сувязі фондам рыхтуецца да друку кніга-альбом аб лагеры смерці, якую мяркуецца выпусціць у свет да 50-годдзя вызвалення Беларусі. Адначасова плануецца фільм адпаведнай тэматыкі, вядзецца работа па стварэнню музея "Трасцянец".

Не толькі грамадзяне, але і ўстановы, прадпрыемствы, арганізацыі рэспублікі напярэдадні 50-годдзя вызвалення Беларусі не могуць застацца ўбаку і, трэба спадзявацца, зробяць усё, каб праўду пра "Трасцянец" ведала шырокая грамадскасць, каб месца гібелі і пакут яго ахвяр было дастойным чынам ушанавана. Для даведкі неабходна адзначыць, што мемарыял з Вечным агнём у "Трасцянцы" ўстаноўлены, на жаль, не на месцы былога лагера смерці і не на месцы гібелі людзей, і яго тэрыторыя аказалася ў цяперашні час недагледжанай і не ўшанаванай належным чынам. Сучаснікам даводзіцца выпраўляць гэту прыкрую недарэчнасць.

Урад Беларусі, Мінгарвыканком аказваюць належную ўвагу справе ўвекавечання памяці ахвяр "Трасцянца", але бюджэтных сродкаў не хапае. У гэтых умовах гісторыка-мемарыяльны фонд "Трасцянец" звяртаецца да грамадзян, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый з просьбай аказаць пасільную арганізацыйную, фінансавую або іншую дапамогу ў ажыццяўленні наступных канкрэтных мерапрыемстваў:

-- устаноўка мемарыяльнага знака і добраўпарадкаванне месца гібелі 150 тысяч чалавек (урочышча Благаўшчына, 14-ты кіламетр Магілёўскай шашы, побач з гарадской звалкай);

-- выпуск кнігі-альбома матэрыялаў і дакументаў аб "Трасцянцы";

-- выпуск дакументальнага фільма;

-- стварэнне філіяла музея Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі былога лагера смерці.

Для тых, хто падтрымлівае высакародныя ідэі фонду "Трасцянец" і мае намер спрыяць іх ажыццяўленню фінансавымі ўкладамі, паведамляем нумары яго банкаўскіх рахункаў:

**700004, Апера Мінгаруправлення Ашчаднага банка Беларусі, код 601 і валютны -- 070035 у тым жа банку.**

Усе фундатары фонду будуць пайменаваны ў спецыяльнай Кнізе памяці, якая запаўняецца для захавання ў філіяле музея Вялікай Айчыннай вайны ў "Трасцянцы", а таксама ў друку.

Больш за паўстагоддзя "Трасцянцу", аднак сёння яго гісторыю чытаем па-новаму, каб быў здзейснены заклік: ніхто не забыты, і нішто не забыта.

**Яўген ЦУМАРАЎ,**
**старшыня фонду,**
**народны дэпутат Беларусі.**

**Таварыства "Радзіма" і рэдакцыя газеты "Голас Радзімы" са смуткам паведамляюць, што 5-га красавіка памёр Мікалай Паўлавіч ПАЎЛОЎСКІ -- адказны сакратар Брэсцкага аддзялення таварыства "Радзіма".**

**Выказваем глыбокае спачуванне сям'і нябожчыка.**

## НАТАТКІ З ПАДАРОЖЖА

# НАДЫШОЎ ЧАС ЛЮБІЦЬ

І ВОСЬ, нарэшце, мы з бацькам едзем у Германію. Сама гісторыя аб тым, як спраўдзілася гэтая паездка, вельмі дзіўная і заслугоўвае асобнага расказу. У разгар кампаніі па аказанню гуманітарнай дапамогі нашай краіне майму бацьку, інваліду з паўвекавым стажам, прынеслі пасылку з далёкай Германіі. Разам з прадуктамі ў куфэрку было і невялікае пісьмо, дзе паведамлялася, што гэтыя калядныя падарункі прызначаюцца "пажылой беларускай фрау", якую невядомы нам чалавек вельмі прасіў паведаміць, ці дайшлі яны да адрасата, ці спадабаліся... Па ўказанаму адрасу бацька паслаў ліст, дзе напісаў, што пасылка трапіла да "пажылога беларускага пана", які вельмі ўдзячны за яе, а таксама за шчырае жаданне дапамагчы невядомым людзям.

Прайшло шмат часу, і гісторыя гэтая амаль што забылася. Якім жа было здзіўленне бацькі, калі прыкладна праз паўтара года ў яго доме раздаўся тэлефонны званок. Званілі з Германіі... Наша добрая знаёмая (якая, дарэчы, і прынесла некалі тую самую пасылку), апынулася ў Сістэрмюэ, невялікім мястэчку непадалёку ад Гамбурга, і выпадкова трапіла ў вельмі гасцінны нямецкі дом. Падчас размовы пасля вячэры гаспадыня раптам сказала, што ў Мінску, адкуль была госця, у яе ёсць сябра, ад якога яна некалі атрымала ліст. І тут наша знаёмая ўбачыла на канверце, што прынесла гаспадыня, вельмі знаёмы ёй адрас і прозвішча... Ну а пазваніць з Германіі ў Мінск, паверце, намнога прасцей і хутчэй, чым, скажам, з таго ж Мінска ў Бабруйск ці Вілейку. Вось так бацька ўпершыню асабіста пазнаёміўся з дзіўнай і непаўторнай жанчынай, графіняй Размары фон Кільмансеф. З гэтага часу лісты з Германіі ў Беларусь і назад ішлі вельмі рэгулярна, і ў кастрычніку мінулага года ў адным з іх графіня ад імя дабрачыннай арганізацыі "Дапамога ў бядзе", членам якой яна з"яўляецца, запрасіла бацьку ў Германію на пратэзіраванне. Але гісторыя гэтая, на мой погляд, пачалася значна раней, калі ў гады вайны бацька, 14-гадовы хлопец, пасля выбуху на ваенным складзе, дзе ён працаваў, застаўся інвалідам. З таго часу прайшло роўна пяцьдзесят год, і вось кола гісторыі, а дакладней, кола жыцця чалавека здзейсніла свой абарот, і зараз за дапамогай і паратункам мы едзем туды, адкуль некалі прыйшла бяда, што скалечыла бацьку.

Як я ставілася да немцаў да гэтай паездкі? Пытанне складанае і неадназначнае. Можа, здзіўлю каго, а можа і не, калі скажу, што ў дзяцінстве, ды і ў школьныя гады немцы асацыіраваліся ў мяне з ворагамі і фашыстамі. Перакананне гэта фарміравалася і пастаянна падтрымлівалася бясконцымі фільмамі пра вайну, кнігамі, абавязковымі для прачытання па школьнай праграме, "урокамі мужнасці", якія праводзіліся ў маёй школе, што насіла імя герояў мінскага падполля, і многім іншым. Так, дзеці абавязкова павінны ведаць мінулае сваёй зямлі, і ні ў якім разе я не хачу прынізіць подзвіг нашага народа ў апошняй вайне, але так атрымлівалася, што выхаванне патрыятызму аднаго народа ішло праз пастаяннае напамінанне пра віну другога. І калі ўсходнія немцы яшчэ сяк-так дружалюбным народам успрымаліся, то па той бок Берлінскай сцяны жылі толькі патэнцыяльныя ворагі, ад якіх невядома чаго было чакаць. Неяк забывалася, што пасля вайны прайшло ўжо шмат год і новыя пакаленні нарадзіліся і тут, і ў Германіі, і ўвесь гэты час у нямецкага народа ішоў (і ідзе зараз) працэс духоўнага ачышчэння. Між іншым, мне падалося, што цяпер пра мінулую вайну там гавораць і ўспамінаюць часцей, чым у нас, і вельмі актыўна супрацьстаяць любой спробе адрадзіць фашызм на сваёй зямлі.

Так што сорамна прызнацца, але большасць маіх ведаў аб Германіі была звязана з мінулай вайной, а слоўнікавы запас нямецкай мовы абмяжоўваўся некалькімі фразамі накшталт "хэндэ хох", "Гітлер капут" і "яволь, гер камендант". Скажу адразу: увесь час знаходжання ў Германіі мяне ратавала англійская мова, якую вывучала ў школе без ахвоты і надзеі некалі выкарыстаць.

Ад Мінска да самага Сістэрмюэ ехалі аўтобусам. Велізарны двухпавярховы "Мерседэс" яго гаспадар, Раймер Дзітрых, у свой час набыў, каб вазіць з Беларусі ў Германію на аздараўленне дзяцей, якія пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы. Семдзесят рэйсаў ужо зрабіў ён па дарогах Еўропы да Мінска і назад. Паступова распачаў у Беларусі ўласны бізнес. Так здарылася, што на гэты раз яго пасажырамі, акрамя нас, сталі тыя, каго адны клічуць бізнесменамі, другія -- "чаўнакамі", -- айчынныя вандроўнікі па танныя і часцей няякасныя нямецкія тавары, якія потым вельмі дорага прадаюцца ў нашых камерцыйных крамах і кіёсках.

Адразу пасля адпраўлення аўтобуса Раймер Дзітрых звярнуўся да пасажыраў з просьбай не курыць і не ўжываць алкаголю падчас падарожжа. У адказ на яго словы раздаўся дружны залп адчыняемых бутэлек. Запахла цыгарэтным дымам... Забягаючы наперад, скажу, што гэтыя гукі і пахі суправаджалі нас да самага Ганавера, дзе выйшлі апошнія камерсанты. Ненадоўга гэтая п'янка перарвалася на мытні, дзе нецвярозых малайцоў запрасілі ў мытную залу. Неяк раптам сціхшыя хлопцы пачалі мітусіцца і соваць усім у рукі біноклі, якія везлі на продаж звыш усякіх абмежаванняў і лімітаў. Дагляд мы прайшлі першымі, стаялі і глядзелі, як адзін за адным, задаволеныя, выходзілі яны з мытнай залы і тут жа адкрывалі новыя бутэлькі.

Святкаванне ўдалага перасячэння дзяржаўнай мяжы нашай радзімы паспяхова працягвалася ажно да самай польска-германскай мытні. Там хлопцы зноў апрытомнелі і запатрабавалі ў гаспадара аўтобуса прыпынку на цэлую гадзіну. "Навошта?" -- здзіўлена запытаўся Раймер Дзітрых. -- "Трэба памяняць грошы", -- сказаў кіраўнік групы. -- "Але ж гэта робіцца вельмі хутка, -- зноў здзівіўся Раймер. -- Навошта столькі часу?!" -- "Ва ўсіх хлопцаў буйныя сумы", -- адказаў малады чалавек і ў пацвярджэнне дастаў з кішэні стос стодоларавых банкнот таўшчынёю з том Марксавага "Капітала". А мне ў гэты момант чамусьці ўспомніліся доўгія чэргі перад нямецкім пасольствам у Мінску, бясконцыя складанасці, што ўзнікалі пры афармленні візы, прыніжанае стаянне перад невялікай брамкай... Хацелася б паглядзець, напрыклад, на чаргу амерыканцаў перад нямецкім пасольствам у Вашынгтоне. Так, напэўна, амерыканцы ў Германіі паводзяць сябе больш прыстойна, чым многія нашы суайчыннікі, ад якіх немцы хочуць абараніць сваю краіну і якіх ужо пачынаюць баяцца. Чаму ж тады цяжкасці і перашкоды ўзнікаюць на шляху тых, хто едзе на лячэнне па афіцыйнаму запрашэнню, а шматлікія групы "чаўнакоў" беспершкодна працягваюць снаваць паміж краінамі?

Але доўгая дарога ў рэшце рэшт скончылася, і мы прыехалі ў Сістэрмюэ. Дзіўным было для нас апынуцца ў старажытным маёнтку, што стаіць на ўласных землях, якія стагоддзямі належалі гэтаму роду. Асноўная сядзіба складаецца з трох будынкаў: у адным -- самым старым -- жыве наша гаспадыня, у другім -- яе сын з сям"ёй, трэці выкарыстоўваецца ў гаспадарчых мэтах.

Велізарнаму двухпавярховаму дому больш за 250 год. Новых, сучасных рэчаў у ім вельмі мала: выдатны тэлевізар "Філіпс", кухоннае абсталяванне -- машына для мыцця посуду і печка СВЧ, а таксама ў склепе апошняй мадэлі аўтамат-кацёл, які забяспечвае дом гарачай вадой і цяплом. Усе астатнія рэчы -- вельмі старыя, часам значна старэйшыя за сам дом. Выдатныя карціны, на якіх намаляваны знакамітыя продкі гэтага роду (дарэчы, адзін з іх, дзед мужа графіні, доўгі час служыў пры рускім царскім двары), каштоўныя гравюры, мэбля, посуд, дзіўныя лямпы, ваенныя рэліквіі -- усё гэта нясе на сабе адбітак часу, беражліва і з любоўю захоўваецца і, здаецца, будзе служыць яшчэ не аднаму пакаленню гэтай сям'і. Так, у доме шмат рэчаў, якімі можа пахваліцца не кожны музей, але галоўнае ў тым, што яны тут -- не экспанаты, яны працягваюць працаваць, дзейнічаць, служыць людзям. Нават самы маленькі дэкаратыўны ліхтарык пачатку стагоддзя па вечарах асвятляе калідор. Самае дзіўнае і каштоўнае ў доме -- бібліятэка. Ах, як я шкадавала, што не ведаю нямецкай мовы і не магу прачытаць гэтыя дзіўныя выданні! Цікава было б, напрыклад, даведацца, якім убачыў Сталіна нямецкі аўтар яшчэ ў 1932 годзе. Большасць кніг у гэтай бібліятэцы -- аб палітыцы, вельмі многа выданняў прысвечана Расіі, яе гісторыі і сучаснасці. Ад велізарнага выдання пра Пятра І, гісторыі царскай сям'і да кніг пра Алега Пянькоўскага і гісторыі савецкага шпіянажу.

Дарэчы, здзівілі адносіны да гісторыі літаральна ўсіх, з кім давялося сустракацца і размаўляць. Яна для гэтых людзей -- не далёкае мінулае, якое некалі вывучалі ў школе, пасля чаго ў галаве засталіся няпоўныя і несістэматызаваныя звесткі. Гісторыя тут -- жывая, яе добра ведаюць, ёю карыстаюцца паўсядзённа, на яе бясконца спасылаюцца, звяртаюцца за парадай. Ды і кожная партыя ці палітычная плынь не імкнецца выкарыстаць гісторыю як сродак барацьбы за свае інтарэсы і мэты. Прычын таму шмат. Германія -- краіна з вялікім ваенным мінулым, і сёння гэты народ больш за ўсё даражыць мірам, які ў рэшце рэшт усталяваўся, спакоем і дабрабытам, а доўгая, добрая памяць пра ўрокі мінулага якраз і служыць гарантыяй таго, што яно не вернецца. Але ж і ставяцца да гісторыі крытычна, "работа над памылкамі" няспынна ідзе і ў прэсе, і ў сэрцах, і ў душах людзей, толькі гэта -- спакойны і цвярозы аналіз былых падзей, а не знаёмая наша сітуацыя, калі людзі агулам ачарняюць усё, што было зроблена раней.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**(Заканчэнне будзе).**

## З ПЛЫНІ ЖЫЦЦЯ



**Горкая доля жаночая... Праскоўі Салагуб -- восемдзесят адзін год. Жыве яна адзінока па вуліцы Чарняхоўскага ў Крычаве, невялікім гарадку на Магілёўшчыне. А чаму адзінока? Ды таму, што пра яе забыліся і сваякі, і мясцовыя ўлады. І знаёмыя, суседзі адзін раз на год не прыйдуць праведаць старую.**

**Работнікі гарадскога аддзела сацыяльнага забеспячэння шмат месяцаў назад прынялі рашэнне ўладкаваць Праскоўю Рыгораўну ў дом састарэлых. Але потым забыліся пра гэта. Больш таго, адабралі і пенсію, якую раней своечасова выдавалі. Ізноў жа па віне таго ж гарсабеса, які заўчасна палічыў, што бабуля цяпер утрымліваецца за дзяржаўны кошт.**

**Як жыць далей? Бабуля сама і агарод не пасадзіць. Адно застаецца: ісці з торбай па свеце жабраваць.**

**Не соладка жывецца і тым, хто яшчэ працуе. Энергетычны і паліўны крызіс адабраў амаль усю механізацыю. Таму і ўспомнілі пра жаночыя рукі ды каня, вярнуліся назад гадоў на трыццаць-сорак.**

**На жаль, прыведзеныя прыклады становяцца тыповымі. Цяжка сёння жыць, асабліва старым, і ў вёсцы, і ў горадзе без падтрымкі, дапамогі і людской спагады.**

**НА ЗДЫМКАХ: Праскоўя САЛАГУБ; усё вытрымаюць жаночыя рукі...**

**Фота А. АЛЯКСАНДРАВА.**



## З ГІСТОРЫІ ЎЗБУЙНЕННЯ БССР

**Мроіўся напачатку інакшы загаловак да нашай публікацыі, інспіруемы пякучаю страфой Купалавай "Беларушчыны". Чытач мажліва памятае: "І дзялілі цябе, усімі мерамі мералі..."**

**Аднак прапануемыя ніжэй архіўныя матэрыялы датычаць непасрэдна не дзяльбы, але пераадолення апошняй. Дакладней -- вяртання да Бацькаўшчыны-Беларусі яе спрадвечных, колісь забраных абшараў (інкарпараваных да савецкае Расіі пастановай ЦК РКП(б) ад 16 студзеня 1919 года), прынамсі, часткі забранага -- Гомельскага і Рэчыцкага паветаў.**

**У невялічкім уступе наўрад ці выпадае заглыбляцца ў праблему так званага ўзбуйнення БССР у сярэдзіне 20-х гадоў. Справа так ці іначай адлюстравана ў розных навуковых, папулярных выданнях, хаця ўсебаковае, вольнае ад партыйна-ідэалагічнай старонnasці, штучных ператрымак асвятленне яе мабыць наперадзе. З свайго боку, абмяжуемся агульным меркаваннем, падказаным як фактычным зместам, так і гісторыка-палітычнымі абставінамі разглядаемых матэрыялаў (Расійскі цэнтр захоўвання і вывучэння дакументаў навейшай гісторыі, ф. 17, воп. 85, спр. 3).**

**Перадусім -- гэта вострае непрыняцце беларускай грамадскасцю чужацкага гвалту над цэласнасцю, непадзельнасцю свае краіны; неаслабнае імкненне да ўз'яднання этнічных айчынных земляў у адзінай Беларускай дзяржаве. Імкненне, якое вызначала настроі, дзеянні выразнікаў і носьбітаў беларускае справы і ў БССР, і ў Заходняй Беларусі пад Польшчай, і ў беларускіх абласцях пад Расіяй, і сярод беларускае палітычнае эміграцыі. Усебеларускі ўз'яднаўчы парыў відавочна і заважыў на станоўчым, хаця і палавінчатым вырашэнні пытання з боку бальшавіцкага цэнтра ў Маскве (дакумент N 10). Заважыла нарэшце пастава адзінага, хоць прымусова й падзеленага народа, ягоная, наперакор асімілятарскаму засіллю, адданасць уласнай этнічнай адметнасці, роднаму беларускаму слову.**

**Саўсім не лічыцца з нацыянальным волевыяўленнем народа тагачаснай уладзе, дэманстрацыйна народнай, не выпадала. Адсюль, як здаецца, і частковыя ўступкі ў беларускім тэрытарыяльным пытанні, знову ж абумоўленыя, як заўважаецца з некаторых дакументаў (NN 3, 4, 5 і інш.), больш тактычнымі, чыста бальшавіцкімі довадамі, чым глыбокім усведамленнем карэнных жыццёвых інтарэсаў беларускае супольнасці. Станоўча вылучаецца ў гэтых адносінах "Дакладная запіска" кіраўнікоў Дзяржплана БССР С.Карпа, І.Краскоўскага (N 1). Цалкам матэрыял налічвае звыш 150 старонак машынапісу і ўяўляе сабой унікальную крыніцу па этна-эканамічнай геаграфіі, гісторыі нацыянальна-дзяржаўнага будаўніцтва Беларусі. Крыніцу, на маю думку, вельмі каштоўную, патрэбную не толькі спецыялісту-даследчыку, але і таму-другому з сучасных дзеячаў дзяржаўных, які з-за атрафіраванасці ў сабе нацыянальна-беларускага пачуцця выказвае ў палітычнай практыцы, падобна некалішнім патрыётам "гомельскага засолу" (дд. NN 2,8,9), поўнае раўнадушша, нават варожасць да Беларускага Дзяржаўнага Інтарэсу, беларушчыны як такой.**

**І ўсё ж нельга не аддаць належнае і камуністам -- там, дзе ім не здраджвала разуменне аб'ектыўнага ходу гісторыі або нават пачуццё здаровага сэнсу. Акурат гэтае якасці не пазбаўлена выступленне тагачаснага сакратара ЦК УКП(б) М.Шверніка. Лапідарнае прамоўцы "считать доказанным" (N 11), адносна беларускасці вяртаемых Беларусі паветаў, падалося нам стасавальным у якасці загалоўка.**

**Чароднасць укладання, паводле храналогіі, нумерацыя дакументаў -- наша.**

**А.Л.**

# "ЛІЧЫЦЬ ДАКАЗАНЫМ..."

### № 1
### ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА ГОСПЛАНА БССР ПО ВОПРОСУ РАЙОНИРОВАНИЯ БССР

*(Друкуецца ў фрагментах)*

**Гл. IV. Областное строительство и Западная область. Правильность принципов и методов районирования БССР и необходимость доведения ее до пределов естественного экономического района СССР.**

Укрупнение БССР в 1924 году было неполным, так как вне состава БССР оставались территории, органически связанные с нею в хозяйственном и культурно-национальном отношении. Хотя укрупнение БССР помимо своего хозяйственного значения сыграло политическую роль не только как новый факт правильного разрешения национального вопроса в БССР и тем самым произвело большое впечатление на Западе (Польша, Литва), -- однако невключение в состав БССР всех территорий, связанных с нею в хозяйственном и национальном отношениях, несколько умалило все значение произведенного укрупнения.

Не вступая в полемику с авторами "Материалов по изучению организации Западной области" (т. 1, Смоленск, 1925), необходимо отметить некоторые черты в этом вопросе, важном с общегосударственной точки зрения.

Нет экономических и других каких-либо оснований, в силу которых авторы районирования предполагают Западной области домогаться сделать некоторые отрезки территорий от БССР. Они выставляли, как тезисы, что по отношению к Белоруссии "вряд ли следует руководствоваться принципами национальной принадлежности населения" (с. 56), на основании чего коренные белоруские области, вроде бывшего Рогачевского уезда и Горецкого, они "для выпрямления границ" предлагают присоединить к новой области. Конечно, утвержденные тезисы тов. Калинина не уполномачивают к такому отношению к национальному вопросу в деле районирования.

Предыдущий ряд соображений дает возможность формулировать вывод, сводящийся к тому, что целый ряд оснований экономического характера побуждают признать нецелесообразность образования особой Западной области и, напротив, выдвигают вопрос о необходимости доведения границ БССР до их естественных экономических пределов путем присоединения к ней Гомельской губернии, с некоторым округлением из частей Смоленской, Псковской губерний.

Вопрос экономический в данном случае тесно переплетается с вопросом национальным. Очерченная территория -- старая территория белорусской национальности. Таким образом, восстановление белорусского района в полном составе отвечает требованиям национальной политики Советской власти. К определению границ родственных национальностей необходимо подходить с большой осторожностью, так как старая статистическая литература дает ненадежные ответы в этом отношении. Не лучше дело обстоит с результатами новейшей переписи. Как известно, перепись 1897 года проводилась под обрусительным углом зрения. Неудовлетворительно поэтому, что эта перепись дает в Смоленской губернии 6,6 % белорусского населения. Между тем в той же губернии по подсчетам 1907 г. числилось 65 %. Это и понятно, ибо куда могли исчезнуть белорусы из своей старой белорусской области, когда в 1858 г. их числилось в Смоленской губернии 54 %. Работы, изданные известным этнографом Добровольским, свидетельствуют о принадлежности половины этой губернии к белорусской национальности. Именно поэтому изучавшие эту губернию экономисты и статистики (Цибриков, Соловьев, Орловский) всегда делят ее на две половины -- на великорусскую и белорусскую.

Очевидно, на стыке двух родственных национальностей статистика легко дает неточные показания. Исследование т.Горецкого[1] дает прекрасную иллюстрацию того же явления в пределах нынешней Гомельской губернии. Так, перепись 1917 г. дает в Гомельском уезде 94 % белорусов, в Речицком -- 85 %, в Новозыбковском -- 12 % и т.д., но в последней (переписи) -- уже 55 % неизвестной национальности. В Стародубском и Клинцовском уездах почти все 100 % населения "не знают" своей национальности. Перепись 1920 г. способна сбить с толку всякого исследователя состава населения по национальному составу: за три года исчезли целые районы с белорусским населением. Население явно уклоняется от дачи показаний. Поэтому гораздо больше говорят о национальности такие факты, как сборник Белорусских песен той же губернии, например, сборники Романова, исследования о говорах в восточной области Гомельской губернии Росторгуева или Полевой и т.д. Поэтому к определению национальности в этих местностях приходится подходить, основываясь не только на статистических данных, но и на данных истории, этнографии и лингвистики.

Кроме того, о национальном составе Гомельской губернии можно судить по количеству уже имеющихся там белорусских школ, а равно и стремлению населения обучаться на белорусском языке. Надежным руководством для определения восточных границ белорусской национальности служит этнографическая карта Белоруссии, приложенная к многотомному исследованию академика Карского.

**Заключение.** Приводя ряд аргументов в защиту расширения границ БССР, в пределах которых было бы возможным ведение планового хозяйства, необходимо отметить, что выдвигаемые нами соображения совпадают с положениями, кои кладутся в основу районирования СССР в целом. Изложенное в настоящей записке устанавливает: 1) нецелесообразность как с точки зрения союзного хозяйства, так и с точки зрения экономического и культурного развития БССР образования проектируемых Оргбюро (в Смоленске) Западной области; 2) необходимость включения Гомельской губернии в состав БССР и 3) возможность разрешения путем присоединения к БССР Гомельской и частей Смоленской и Псковской губерний вопроса о районировании западной части СССР.

Председатель Госплана БССР (С. Карп)

Член Президиума Госплана БССР (И.Красковский)

*(Не датавана).*

### № 2
### ВЫПИСКА ИЗ ПРОТОКОЛА № 45 ЗАКРЫТОГО ЗАСЕДАНИЯ БЮРО ГОМЕЛЬСКОГО ГУБКОМА ВКП(б) ОТ 24.VII.1926 Г.

Слушали: О присоединении Гомельской губернии к БССР -- тов. Заславский[2].

Постановили: 1. Отметить, что усилившиеся за последнее время разговоры со стороны руководящих работников Белоруссии о присоединении Гомельской губернии вызывают нервозность у местных работников и организаций, создают неуверенность при намечении перспектив хозяйственной работы и вообщем вредно отражаются на всей работе губернии.

2. Бюро Губкома считает, что присоединение к Белоруссии будет встречено с недовольством рабочей массой и преобладающей частью крестьянства губернии и ухудшит политическое настроение трудящихся Гомельщины.

3. С другой стороны, Бюро не видит достаточных и веских оснований для присоединения к Белоруссии, так как промышленность губернии в очень малой степени связана с БССР и экономически губерния тяготеет больше в РСФСР.

4. Признать, что по нацсоставу населения и другим признакам может стоять вопрос о присоединении к Белоруссии некоторой части Речицкого и Гомельского уездов.

5. Однако отрывать части губернии теперь нецелесообразно и не вызывается никакой необходимостью. Этот вопрос можно будет разрешить только при проведении общего районирования.

6. Просить ЦК ВКП(б) дать указание ЦК Белоруссии этого вопроса впредь до проведения общего районирования Западного района больше не поднимать.

Верно: тех. секретарь Губкома (Кругликов)

*(Машынапіс, 1 экз.).*

### № 3

**Совсекретно**

### В КОМИССИЮ ПОЛИТБЮРО ЦК ВКП(б) ПО ВОПРОСУ О РАСШИРЕНИИ ГРАНИЦ БССР

Дорогие товарищи!

1. Все материалы относительно экономических связей Гомельщины и частей Псковской губернии, о присоединении которых к БССР мы ставили вопрос, разработаны Госпланом БССР ("Материалы по вопросу районирования Западной области Союза". Вып. 1. Изд. Госплана БССР). Наши выводы в этом отношении полностью подтверждены Госпланом СССР.

2. Данные относительно национального состава населения Гомельщины в тех же "Материалах". Следует еще раз подчеркнуть, что статистические данные о % белорусов, достаточные для положительного решения вопроса о присоединении, все-таки приуменьшены. Например, данные по Клинцовскому и Стародубскому уездам указывают на отсутствие там значительного % белорусов, в то время как работа по собиранию народных песен и изучению быта деревни в этих уездах указывает на хорошо сохранившийся белорусский язык.

3. Основной решающий аргумент за расширение границ БССР -- в ближайшее время -- определяется политикой Польши.

По нашим сведениям, политика Пилсудского, в частности, сводится к проведению ряда реформ в отношении национальных меньшинств, в т.ч. белорусов. Сюда надо отнести такие меры, как создание Института Белорусской Культуры и Хозяйства, в который вовлекаются правые белорусские круги в Польше. Польское правительство начинает поощрять издательскую работу на белорусском языке; носятся разговоры о создании федерации национальных областей; белорусские организации Польши приглашаются через польское правительство на "Совещание нацменьшинств", созываемое в Женеве Лигой Наций и т.п.

Мы имеем сведенья, что такая политика Пилсудского чрезвычайно усиливает и актизизирует все правое антисоветское крыло белорусских организаций в Польше (также и в Латвии, Чехо-Словакии и Литве) и тянет за ними колеблющиеся элементы. Конечно, иллюзии в отношении Пилсудского далеко еще не изжиты, процесс некоторого поправения белорусской интеллигенции в Польше будет дальше продолжаться.

Полонофильские антисоветские настроения начинают мелькать, правда, пока слабо, в незначительной части и белорусской интеллигенции, работающей в БССР. Так, часть этой националистической интеллигенции, которая работает с Советской властью, найдя в ней силу, способную разрешить национальный вопрос, начинает колебаться и видеть в политике Пилсудского путь к разрешению белорусского вопроса на основе буржуазной демократии. Национал-демократическая по своему существу эта часть интеллигенции под влиянием иллюзий пилсудчины начинает проявлять свою антисоветскую сущность.

Одним из основных аргументов против нас этой части интеллигенции является не только экономическая и социальная политика Советской власти, но "непоследовательность Коммунистической партии в проведении национальной политики", "нерешенность в государственном устройстве БССР".

---

1 Гл.: Гарэцкі Г. Насельніцтва Гомельскай губерні (1926).

2 Заслаўскі -- у 1926 г. сакратар Гомельскага губкома УКП(б).

**(Працяг будзе).**



Паводка. Фота П. НІКІЦІНА.

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ ГІМНЕ

# ТАК ДУМАЮЦЬ БЕЛАРУСЫ ВІЛЕНШЧЫНЫ

У хуткім часе пасля вызвалення Мінска ад нямецкай акупацыі і пераезду Дзяржаўнага ансамбля песні і танца Беларускай ССР пад кіраўніцтвам Рыгора Шырмы ў сталіцу Беларусі хор гэтага праслаўленага калектыву заняўся вывучэннем твораў розных кампазітараў, адзін з якіх меў быць абраным на гімн БССР.

Я і мае паплечнікі, што працавалі на той час у хоры Р.Шырмы, разгледзелі шмат "прэтэндаваўшых" на гімн твораў. Як і зараз, так і тады праца гэтая працягвалася даволі доўга. У рэшце рэшт выбар паў на той твор, які і па сёння з'яўляецца гімнам Беларусі. (Думаю, няма патрэбы нагадваць шаноўнаму чытачу, якім "патрабаваннем часу" павінен быў адпавядаць той твор, асабліва яго тэкставая частка, бо музыцы гімна адводзілася другараднае значэнне).

Ні ў якім разе не маючы на мэце прынізіць талент і майстэрства аўтараў гэтага твора ("Мы, беларусы, з братняю Руссю" -- сл. Міхася Клімковіча, муз. Несцера Сакалоўскага), вымушаны, тым не менш, адзначыць надзвычай прымітыўны ўзровень музыкі гімна. Праўда, калі прааналізаваць гімны іншых дзяржаў, можна заўважыць, што разам з вельмі багатай музычнай мовай сустракаюцца і даволі простыя ў музычных адносінах творы. Але гэта на значыць, што мы павінны на іх раўняцца.

Будучы далёкім ад думкі каго-небудзь павучаць, а тым больш аўтарытэтную камісію, хачу, тым не менш, выказаць свой, а таксама шматлікіх іншых беларусаў Віленшчыны пункт гледжання на гэтую праблему: не трэба вынаходзіць веласіпеда. У нас ёсць цудоўныя, выпрабаваныя часам творы. І ў першую чаргу, да прыкладу, такія, як "Пагоня" (сл. Максіма Багдановіча, муз. Аляксея Туранкова альбо Міколы Шчаглова-Куліковіча) і "Мы выйдзем шчыльнымі радамі" (сл. Макара Краўцова, муз. Уладзіміра Тэраўскага). Гэтыя творы вядомыя многім і многім беларусам як старэйшага, так і малодшага пакаленняў, яны папулярныя ў народзе, сярод беларусаў усяго свету. Таму не трэба губляць дарэмна часу, а як мага хутчэй узаконіць у якасці гімна адзін з гэтых твораў. На маю думку, на гімн Рэспублікі Беларусь больш надаецца "Мы выйдзем шчыльнымі радамі".

Нашы нашчадкі будуць толькі ўдзячныя нам за гэты выбар.

З павагай

**Лявон МУРАШКА,**
**заслужаны артыст, заслужаны дзеяч мастацтваў Літвы, лаўрэат Усесаюзнага конкурсу вакалістаў, старшы выкладчык Літоўскай кансерваторыі, саліст тэатра оперы і балета Літоўскай Рэспублікі**

# ВЯЛІКІЯ ДАТЫ, ВЯЛІКІЯ ПОСТАЦІ

Святкаванне Дня незалежнасці Беларусі пачалося ў Вільні 24-га сакавіка адкрыццём памятнай дошкі (гранітнага барэльефа) у гонар Кастуся Каліноўскага, выкананай скульптарам Алесем Міронччыкам.

Нягледзячы на дрэннае надвор'е, сабралася каля паўтары сотні ўдзельнікаў. І якраз на гэтую часіну перацііх дождж, выглянула сонца.

Адкрываючы ўрачыстасць, старшыня Таварыства беларускай культуры Хведар Нюнька падзякаваў старшыні "Бацькаўшчыны" Ганне Сурмач за актыўную дапамогу ў выкананні і дастаўцы барэльефа, скульптару Міронччыку і прадстаўнікам беларускага дыпламатычнага корпуса ў Літве, а таксама мясцовым уладам.

Пасол Беларусі ў Літве Яўген Вайтовіч падкрэсліў у сваім выступленні, што адкрыццё памятнай дошкі на будынку, які быў вязніцай ахвярнага змагара за волю Кастуся Каліноўскага, з'яўляецца доказам памяці і ўдзячнасці народаў, за чыю волю аддаў сваё маладое жыццё патрыёт роднай зямлі. Каліноўскі, змагаючыся за вызваленне беларусаў, літоўцаў і палякаў, заклаў фундамент сяброўства, і яго запавет мы сёння шчыра і паслядоўна выконваем.

Ганна Сурмач адзначыла, што паўстанне Каліноўскага выклікала магутную хвалю адраджэнскага руху на Беларусі. У непарыўнай сувязі з гэтым паўстаннем узнікла ідэя і падзея 25-га сакавіка. Ганна Сурмач выказала падзяку ўладам незалежнай Літвы за істотную падтрымку Беларусі ў часе барацьбы за незалежнасць, калі нават установчы з'езд Беларускага народнага фронта адбываўся ў Вільні.

У сваіх выступленнях старшыня віленскага Згуртавання былых палітвязняў-беларусаў Аляксей Анішчык і старшыня аддзела ТБК у Салечніках Пятро Малафей выказалі перакананне, што запаветы Кастуся Каліноўскага наш народ памятае не толькі на Беларусі, але і ва ўсіх кутках свету, дзе жывуць беларусы.

Адкрытая мемарыяльная дошка была асвячона мясцовым пробашчам Дамініканскага касцёла (пры вуліцы Ігната II). Пасля ўрачыстага адкрыцця прысутныя накіраваліся ў Белую залу Палаца мастацтваў, дзе была наладжана выстаўка віленскіх мастакоў (беларусаў) і канцэрт ансамбля "Харошкі".

Перад канцэртам у палкім выступленні прадстаўнік БНФ Лявон Баршчэўскі заявіў, што Беларусь з пашанаю і разуменнем ставіцца да ўсіх народаў. Беларусы не шавіністы, яны не выдумляюць неабгрунтаваных прэтэнзіяў да сваіх суседзяў і чакаюць такіх жа адносін з іх боку.

Адносна няпэўных меркаванняў некаторых няўстойлівых людзей спадар Баршчэўскі цвёрда і аўтарытэтна заявіў, што спробы варожых сіл ашукаць беларускі народ чарговы раз – не збудуцца. Гарантыяй з'яўляецца прынятая Канстытуцыя Беларусі і наша нязломная воля.

Па-сяброўску, цёпла і спагадліва выступіў намеснік старшыні (спікера) літоўскага парламента спадар Алоізас Сакалас. Ён падкрэсліў, што парламент Літвы робіць усё, каб дапамагчы беларусам у вырашэнні іх бягучых жыццёвых праблем. Літоўскі і беларускі народы здаўна супольна змагаліся за сваю родную мову, за самастойнасць свае дзяржавы. Цяпер апрацоўваюцца дагаворы аб шчырым суседскім супрацоўніцтве.

З кароткім дакладам выступілі спадар Лявон Луцкевіч і старшыня дэпартамента па нацыянальных справах спадарыня Кабецкайтэ.

Незабыўнае ўражанне пакінуў у прысутных канцэрт цудоўнага ансамбля "Харошкі". Мастацкі кіраўнік Валянціна Гаявая яшчэ раз даказала росквіт свайго таленту.

Вакханалія фарбаў і танцавальна-балетнага майстэрства, беззаганная гарманізацыя народных матываў, чотка вытрыманая рытмічнасць сумесна з плаўнасцю -- усё гэта запаланіла залу.

**Аляксей АНІШЧЫК.**

# МЫ – БЕЛАРУСАМ, БЕЛАРУСЫ – БАЦЬКАЎШЧЫНЕ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

А тым больш да таварыства, адзінай арганізацыі ў той час, якая магла падтрымліваць сувязі з замежнымі суайчыннікамі.

Трэба, аднак, адзначыць, што нягледзячы на ўсе недахопы, таварыства і ў тыя часы зрабіла многа карысных спраў, асабліва па задавальненню культурна-асветных патрэб суайчыннікаў і развіццю ў іх пачуцця лучнасці з Бацькаўшчынай. Як тут не ўспомніць, што па ініцыятыве таварыства "Радзіма" ў 1973 годзе ў Злучаных Штатах Амерыкі, у Араўпарку каля Нью-Йорка, упершыню быў адкрыты помнік беларускаму песняру Янку Купалу. Вялікія групы беларусаў з Аргенціны, Канады, ЗША і іншых краін прыязджалі па запрашэнню таварыства на Беларусь і знаёміліся з жыццём нашай рэспублікі. У арганізацыі суайчыннікаў накіроўваліся дэлегацыі таварыства, у складзе якіх былі вядомыя дзеячы культуры і навукі рэспублікі.

І вось наступілі 80-я гады. Дынаміка падзей гэтых гадоў у нашай краіне і паступовая дэмакратызацыя ўсіх бакоў грамадскага жыцця выклікалі неабходнасць радыкальных зменаў у арганізацыі, накірунках і формах работы таварыства з замежнымі суайчыннікамі. Аб'ектыўны погляд на праблему беларускай эміграцыі, заснаваны на агульначалавечых каштоўнасцях, дазволіў нам перайсці да наладжвання і развіцця адносін згоды, даверу і ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з усімі выхадцамі з Беларусі, незалежна ад іх палітычных поглядаў і рэлігійных перакананняў. У гэтым сэнсе варта заўважыць, што ўжо на пачатку "перабудовы" адбыліся першыя кантакты прадстаўнікоў таварыства з беларускімі нацыянальнымі арганізацыямі далёкага замежжа. Не ўсё ішло гладка і адназначна: адчуваліся вынікі шматгадовага адчужэння паміж абодвума бакамі. Але лёд узаемнага недаверу паступова раставаў, і к 1988 году было дасягнута пэўнае ўзаемаразуменне і ўсталяваліся добрыя дзелавыя адносіны з буйнейшымі нацыянальнымі арганізацыямі замежжа. Тады ж, у 1988 годзе, прадстаўнікі таварыства правялі сустрэчы з шэрагам замежных беларускіх нацыянальных суполак і дамовіліся аб культурным супрацоўніцтве. І ў 1990 годзе па запрашэнню таварыства "Радзіма" на Беларусі ўпершыню знаходзіўся і выступаў перад грамадскасцю Мінска, Полацка, Гродна, Вільні фальклорна-харэаграфічны ансамбль "Васілёк" з Нью-Йорка, удзельнікі якога -- дзеці выхадцаў з Беларусі.

У выніку наладжвання непасрэдных кантактаў з кіраўніцтвам Беларуска-амерыканскага задзіночання дэлегацыі таварыства "Радзіма" ў 1990 і 1992 гадах прымалі ўдзел у традыцыйных сустрэчах беларусаў Паўночнай Амерыкі.

У сучасны момант таварыства "Радзіма" падтрымлівае трывалыя сувязі з арганізацыямі суайчыннікаў – выхадцаў з Беларусі ў краінах Еўропы, Амерыкі (ЗША, Канада, Аргенціна, Бразілія, Уругвай), Азіі і Афрыкі. Буйнейшымі з іх з'яўляюцца Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Польшчы (БГКТ), Беларуска-амерыканскае задзіночанне (БАЗА), Федэрацыя рускіх канадцаў (ФРК), Федэрацыя культурна-асветніцкіх таварыстваў у Аргенціне, карпарацыя "Араў-парк" у ЗША і іншыя.

У новым статуце таварыства "Радзіма", які прыняты на апошняй яго канферэнцыі ў кастрычніку 1991 года, канкрэтызаваны мэты і задачы таварыства, пашыраны сферы яго дзейнасці.

Згодна са статутам, асноўныя задачы таварыства скіраваны на развіццё сувязей з замежнымі суайчыннікамі на падставе духоўнай, культурнай, патрыятычнай, рэлігійнай і іншай агульнасці, азнаямленне іх з гісторыяй, культурай і нацыянальнымі традыцыямі беларускага народа, выхаванне пачуцця лучнасці з гістарычнай Бацькаўшчынай, а таксама садзейнічанне мацаванню міру і дружбы, даверу і ўзаемапаразумення, усебаковага супрацоўніцтва паміж народамі і дзяржавамі.

Важнейшым накірункам у практычнай рабоце таварыства, як і раней, з'яўляецца культурна-асветніцкая дзейнасць сярод нашых замежных суайчыннікаў. Для гэтага выкарыстоўваюцца разнастайныя формы: прыём дэлегацый і груп суайчыннікаў з мэтай абмену вопытам і азнаямлення з гістарычнай і культурнай спадчынай нашага народа, правядзенне сустрэч з прадстаўнікамі маладога пакалення эміграцыі, курсаў мастацкай самадзейнасці, летняга адпачынку дзяцей суайчыннікаў, садзейнічанне ў прыёме моладзі на вучобу ў навучальныя ўстановы рэспублікі і інш. У арганізацыі суайчыннікаў накіроўваецца вучэбна-метадычная і мастацкая літаратура, перыядычныя выданні, кінафільмы, запісы беларускай музыкі, нацыянальныя сцэнічныя касцюмы і г.д. Так, толькі ў 1991–1993 гадах на курсах у Мінску таварыствам арганізавана стажыроўка па ўдасканаленню майстэрства 35 кіраўнікоў і ўдзельнікаў калектываў мастацкай самадзейнасці, выраблены і перададзены сцэнічныя касцюмы для беларусаў Аргенціны і для калектываў з Беласточчыны і Галандыі, у арганізацыі суайчыннікаў за гэты ж перыяд накіравана больш за 6 тысяч асобнікаў падручнікаў, кніг, перыядычных выданняў і інш.

Цесныя сувязі таварыства "Радзіма" падтрымлівае з буйнейшай грамадскай арганізацыяй беларускай меншасці ў Польшчы -- Беларускім грамадска-культурным таварыствам. Асаблівую ўвагу мы ўдзяляем аказанню дапамогі ў будаўніцтве Музея беларускай культуры ў Гайнаўцы. Таварыства "Радзіма" было першай арганізацыяй рэспублікі, якая ажыццявіла важныя крокі для практычнай дапамогі ў справе будаўніцтва гэтага музея. Яно арганізавала збор дабрачынных ахвяраванняў на музей, а на сабраныя сродкі закупіла і перадало ў Гайнаўку вялікую колькасць розных будаўнічых матэрыялаў, абсталяванне і нават мікрааўтобус. Работа па аказанню гэтай дапамогі з мэтай хутчэйшага завяршэння будаўніцтва музея працягваецца і ў апошні час.

Вельмі важны накірунак у дзейнасці таварыства "Радзіма" ўзнік у сувязі з цяжкімі вынікамі чарнобыльскай катастрофы на тэрыторыі Беларусі. Зварот да суайчыннікаў, прыняты ў 1989 годзе сумесна з іншымі грамадскімі арганізацыямі рэспублікі, знайшоў водгук сярод замежных сяброў таварыства. І хутка адным з першых на яго адгукнуўся наш суайчыннік Міхаіл Мельнік, які жыве ў Германіі. Ён даставіў вялікую партыю медыцынскіх прэпаратаў, якія былі перададзены непасрэдна ў забруджаныя радыяцыяй раёны Гомельскай і Магілёўскай абласцей. У далейшым і да апошняга часу гуманітарная дапамога ў адрас таварыства рэгулярна прыходзіць ад суайчыннікаў з розных краін свету: Германіі, Бельгіі, Галандыі, ЗША, Канады, Аўстраліі, Аргенціны, Алжыра, Сірыі, Ганы і іншых. Таварыства перадае яе ў медыцынскія ўстановы, дзе лечацца дзеці і дарослыя, пацярпеўшыя ад радыяцыі. У прыватнасці, у 1992--1993 гадах ад суайчыннікаў замежжа атрымана медыкаментаў, вітамінаў і медыцынскага абсталявання на суму больш за 15 мільёнаў нямецкіх марак. Толькі дэлегаты Першага з'езда беларусаў свету -- сябры таварыства з Аргенціны, Германіі, ЗША прывезлі такой дапамогі на суму каля 1 мільёна марак ФРГ і перадалі ў Беларускі дзіцячы фонд 10 тысяч долараў ЗША з мэтавым прызначэннем для дзіцячага аддзялення НДІ анкалогіі і медыцынскай радыялогіі ў Бараўлянах і 1 000 долараў для дыспансера радыяцыйнай медыцыны ў Мінску.

Таварыства "Радзіма" вядзе таксама работу па вяртанню беларускаму народу страчаных у розны час гістарычных і культурных каштоўнасцей. Так, ад суайчынніка А. Цеханавецкага, які жыве ў Англіі, атрыманы старадаўні слуцкі пас ручной работы і рэдкае выданне кнігі на стараславянскай мове.

З узнікненнем беларускіх суполак у краінах СНД і Балтыі таварыства "Радзіма" аказвае дапамогу ў іх станаўленні і арганізацыі дзейнасці.

Адзначаючы сваё 30-годдзе, таварыства "Радзіма" і ў далейшай сваёй дзейнасці плануе пашыраць супрацоўніцтва з беларускімі суполкамі далёкага і блізкага замежжа па ўсіх накірунках, і перш за ўсё ў культурна-асветніцкай галіне.

**Сяргей КАРТЭС,**
**старшыня праўлення таварыства "Радзіма".**

ПЕРШЫ ЗБОРНІК ПАЭТА

# "Я ПАЧЫНАЮСЯ З КУПАЛЫ"

Першы зборнік вершаў -- незвычайная і радасная падзея ў жыцці не толькі самога паэта, але і яго блізкіх сяброў і аднадумцаў.

У пачатку 1994 года ў Слонімскай узбуйненай друкарні аддрукавана чарговая кніжка -- першы зборнік вершаў Сяргея Чыгрына пад назвай "Шчырая Шчара". У кніжных магазінах яе пакуль што няма. І вось я першым пасля аўтара трымаю яе ў руках, хвалююся і, чытаючы аўтограф, радуюся за свайго маладога сябра.

Хочацца аб ёй напісаць, але чамусьці доўга думаю, не магу сесці за стол. Справа ў тым, што Сяргей Чыгрын -- член літаратурнага аб'яднання "Зоры над Зальвянкай" пры Зэльвенскай раённай газеце "Праца". І амаль усе яго вершы, што ёсць у зборніку, на працягу апошніх 10 гадоў друкаваліся ў гэтай газеце. Яны вабяць узнёсласцю, чысцінёй і сакавітасцю роднай мовы, абгрунтаванымі і нечаканымі паэтычнымі абагульненнямі. Мы адчуваем, што паэт улюбёны ў сваю родную Беларусь, навакольныя вёскі, блізкія сэрцу краявіды і мясціны, дзе побач слаўны Слонім, канал Агінскага, дзе працякае "шчырая Шчара"...

Каб адказаць на пытанне, адкуль бярэ вытокі паэтычная плынь паэта, нагадаем адзін з яго вершаў:

**Купляюць Джэка Лондана,**
**стаяць у чарзе па Мапасана,**
**Гюго, Вальтэра, Дзікенса...**
**Запаўняюць кніжную паліцу**
**творамі Маруа, Флабэра,**
**Твэна...**
**А я кожны дзень перачытваю**
**Купалу --**
**Я пачынаюся з Купалы.**

Думаю, што апошні радок гэтага верша можна паставіць эпіграфам да зборніка.

Некалькі слоў аб жыццёвым і творчым шляху паэта.

Сяргей Чыгрын нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Хадзявічы на Слонімшчыне. Скончыў тэатральнае аддзяленне Магілёўскага культасветвучылішча і філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Служыў у войску. Пасля службы працаваў загадчыкам Сынкавіцкага сельскага Дома культуры. З дзяцінства ўлюбёны ў паэтычнае слова, вершы пачаў пісаць яшчэ ў школьныя гады. Першы свой верш "Свеціць сонейка" надрукаваў у часопісе "Бярозка" ў 1975 годзе. Некаторы час працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Глоўсевіцкай школе, а таксама ў газеце "Слонімскі веснік".

Цяпер ён загадчык літаратурнай часткі Слонімскага беларускага драматычнага тэатра.

Яго вершы друкаваліся ў зборніках "Вусны" (1985), "Квадра" (1990), штогодніках "Сучаснік", "Дзень паэзіі", часопісах "Маладосць", "Беларусь", "Голас часу" (Лондан), "Першацвет", "Роднае слова" і іншых рэспубліканскіх выданнях.

Сяргей Чыгрын часта выступае ў друку як краязнавец і даследчык беларускай літаратуры. У пачатку 1993 года ў Слоніме выдаў кніжку "Янка Купала і Слонімшчына".

Пераклаў на беларускую мову п'есы А.Хайта "Дзень нараджэння ката Леапольда" (пастаўлена ў 1993 годзе Слонімскім драмтэатрам) і К.Гальдоні "Карчмарка".

У зборніку "Шчырая Шчара" каля 70 вершаў. Ён прыгожа і прывабна аформлены мастачкай Васілікай Шаронавай. Кніжка пачынаецца вершамі аб матчынай мове -- "Прызнанне", "Мова", "Мая мова"... Мова -- душа народа. Жыве мова -- жыве народ. Ад мовы залежыць і суверэнітэт нашай дзяржавы. Любоў да мовы -- гэта любоў да Беларусі і яе працавітага народа. Паэт гэта глыбока адчувае і пераканаўча піша:

**Ты жыві, мая мова, жыві,**
**Як вясновая квецень,**
**як неба...**
**Ап'яні,**
**абудзі,**
**астудзі,**
**абнаві --**
**Ад чужой такой ласкі**
**не трэба!**

Паэта хвалююць гістарычныя падзеі і літаратурнае жыццё Беларусі, наша спадчына. Ён прысвячае вершы вядомым беларускім пісьменнікам. "Гальяш Леўчык", "Сяргей Дарожны", "У хаце Ларысы Геніюш у Зэльве", "Маналог Анатоля Іверса", "Васілю Быкаву" -- нават назвы гэтых вершаў вяртаюць нас да адлаведных часоў барацьбы за адраджэнне, за росквіт бацькоўскага краю. З асаблівай павагай, паэтычным пафасам і ўзнёсласцю піша паэт пра народнага пісьменніка Беларусі Васіля Быкава.




У вершах "Касцёл святога Андрэя ў Слоніме", "Успенскі сабор у Жыровіцах", "Сынковічы", "Белая вежа" аўтар звяртаецца да вобразаў мінуўшчыны і праблем нашага часу. Асаблівую ўвагу хачу засяродзіць на вершы "Белая вежа". Паэт гаворыць аб ёй як аб помніку свабоды і непераможнасці, яна напамінае яму Беларусь:

**Белая вежа -- сівая вежа,**
**Мару назваць цябе**
**Вежай Зуброў.**
**Раны твае мохам заснежаны**
**І абмытыя ласкай вятроў.**

**Белая вежа -- помнік свабоды,**
**Не раз ты ваенную знала пару...**
**Так і стаіш ты, высокая, гордая,**
**Непераможная, як Беларусь!**

Аб трагічных падзеях Вялікай Айчыннай вайны напісаны запамінальныя вершы "Хатынь", "Тыя, хто не вярнуўся з вайны", "Ветэраны", "Удава".

Не абмінуў паэт і вечнай тэмы -- тэмы кахання. Чытаючы вершы "Твае лісты", "Пасля здрады", "Адліга", "...Тваё маўчанне не парушу", адчуваеш лірычны настрой і перакананне: аўтар умее тонка і далікатна перадаваць інтымныя перажыванні героя.

Складаны і заблытаны наш час. Але ж як-ніяк мы ўжо тры гады жывем у самастойнай дзяржаве, якая мае сваю дзяржаўную мову, сімвалы -- герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сцяг. Здаецца, што ўсё ўжо зроблена, толькі жыць і радавацца. Але паэт добра разумее, што на самай справе "далёка нам яшчэ да Беларусі". Таму разам з народам ён будзе змагацца за Праўду, Волю, Адраджэнне і Незалежнасць. Гучыць гэта як перакананне, як спагада, як малітва:

**Разам з народам**
**не адступлюся --**
**Тут крывічоў пакаленне,**
**Дайце дарогу маёй Беларусі**
**Да Адраджэння!**

**Богу за ўсё на зямлі**
**пакланюся**
**І папрашу міласэрнасці,**
**Дайце дарогу маёй Беларусі**
**Да Незалежнасці.**

**Пётр МАРЦІНОЎСКІ,**
**кіраўнік літаратурнага аб'яднання "Зоры над Зальвянкай" пры зэльвенскай раённай газеце "Праца".**

# КНЯЗІ АГІНСКІЯ Ў ВІЦЕБСКУ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Прычым, абраў для ўзвядзення выразны ўзор мясцовай школы дойлідства -- драўляны крыжова-цэнтрычны чатырохзрубны храм, кожны са зрубаў якога быў накрыты асобным шатровым дахам. Тая акалічнасць, што царква Св. Тройцы па жаданню князя была ўзведзена ў традыцыях мясцовай школы дойлідства, можа разглядацца сёння як спецыфічная форма мецэнацтва: як вядома, у сярэдневечны магнатызаказчыкі з'яўляліся заканадаўцамі моды для цэлага рэгіёна. Амаль два з паловай стагоддзі царква радавала вока віцябчан дасканаласцю і адметнасцю сваіх формаў, пакуль не была гвалтоўна знішчана ў 1920-я гады.

Адной з самых цікавых асобаў з роду Агінскіх, што былі цесна звязаны з Віцебскам, з'яўляецца князь Марцыян Міхал, сын Сымона Караля і Тэадоры з Корсакаў, які быў напачатку віцебскім кашталянам, а потым і ваяводам. Магчыма, маючы намер зрабіць Віцебскае ваяводства галоўным месцам пражывання сваіх нашчадкаў, Марцыян Агінскі намагаўся ператварыць свае прыватныя маёнткі ў ваколіцах горада ў мястэчкі, а з цягам часу -- і ў невялікія гарады. Напрыклад, маёнтак Веляшковічы ён задумаў зрабіць горадам пад назваю Руская Варшава і з гэтай нагоды ў 1724 годзе выдаў спецыяльны прывілей "усім мяшчанам і рознага звання людзям", што жадалі б пасяліцца ў новым горадзе, на палёгку ад падаткаў і права бязмытнага гандлю. Аналагічны прывілей тычыўся і "горада Калышкі" (сучасная вёска ў Лёзненскім раёне Віцебскай вобласці).

Марцыян Агінскі меў асобны палац у віцебскім прадмесці Лукішках, аднак жыў пераважна ў сваім маёнтку Марцыянаве недалёка ад горада. Працягваючы старадаўнюю традыцыю заможнага магнацкага роду, ён выступіў фундатарам бернардзінскага касцёла ў Мікуліне, кляштара кармелітаў у Вільні. У 1716 годзе на сучаснай плошчы Свабоды езуіты віцебскай калегіі пачалі ўзводзіць мураваныя будынкі свайго касцёла і кляштара. Езуіцкі касцёл у гонар Св. Юзафа быў пабудаваны галоўным чынам на сродкі ваяводы Марцыяна Агінскага. З жніўня 1731 года адбылася працэдура ўрачыстага ўводу абраза Св. Юзафа ў віцебскі касцёл езуітаў, у якой, вядома, удзельнічаў і князь-фундатар. Вялебныя ксяндзы-езуіты ператварылі гэтае мерапрыемства ў сапраўдны спектакль, які перакінуўся на вуліцы горада. Вось якая справаздача аб ім была зроблена ў тагачаснай газеце "Польскі кур'ер": "У прызначаны час пачалося пампезнае шэсце, якое адчынялі харугва мясцовага магістрата і святочна апранутыя прадстаўнікі гарадскіх цэхаў. У цэнтры працэсіі знаходзілася трыумфальная калясніца, на якой быў уладкаваны абраз, драпіраваны расшытымі золатам тканінамі. Шэсце суправаджалася залпамі з ручной зброі і салютамі гармат, што размяшчаліся ў Верхнім замку. Працэсія спынілася перад трыумфальнай аркай, і ваявода Марцыян Агінскі з некалькімі саноўнікамі зняў абраз з калясніцы і адправіў яго да вялікага алтара. Прагучаў падзячны касцельны гімн "Te Deum", і пачалося набажэнства пры гуках капэлы, што была размешчана на двух хорах".

Буйныя магнаты звычайна рабілі свае фамільныя склепы ў якім-небудзь вялікім храме, узведзеным на іх сродкі. Найбольш знакамітай сёння на Беларусі з'яўляецца грабніца князёў Радзівілаў у былым езуіцкім касцёле ў Нясвіжы. У віцебскім езуіцкім касцёле меў намер зрабіць фамільны склеп і Марцыян Міхал Агінскі. Тут былі пахаваны дзве яго жонкі і сам князь пасля смерці ў 1750 годзе.

Ад свайго першага шлюбу з Тэрэзай Брастоўскай князь Марцыян Агінскі меў вялікае патомства -- пяцёра сыноў і чатыры дачкі, якія таксама не парывалі сувязі з Віцебскам. Князь Станіслаў Агінскі з 1740 года быў віцебскім кашталянам. Францішак Ксаверы прысвяціў сябе служэнню Богу і, уступіўшы ў 1733 годзе ў Варшаве ў ордэн езуітаў, пазней стаў рэктарам віцебскага езуіцкага калегіума. Кар'ера князя Ігнація Агінскага, літоўскага маршалка і віленскага кашталяна, была мала звязана з Віцебскам, аднак пасля смерці ён пажадаў быць пахаваным у фамільным склепе ў віцебскім езуіцкім касцёле. Жонка князя Ігнація Алена Агінская загадала пахаваць сябе побач з мужам, у касцёл віцебскіх езуітаў труна з яе целам была перавезена з Варшавы ў 1790 годзе. Князь Тадэвуш Агінскі, троцкі кашталян, а пазней і ваявода, як вядома, стаўся фундатарам аднаўлення знішчанай пажарам капліцы Божага Цела пры касцёле Св. Яна ў Вільні, крыпта якой прызначалася для сямейных пахаванняў Агінскіх. Улюбёным месцам яго жыхарства быў маёнтак Ганута (у сучасным Вілейскім раёне Мінскай вобласці), аднак не забываўся князь Тадэвуш і пра свае ўладанні на Віцебшчыне. Разам з жонкай Ізабэлай з Радзівілаў у 1743 годзе ён зрабіў вялікі фундацыйны запіс на Тадулінскі базыльянскі кляштар, што знаходзіўся недалёка ад горада (герб князёў Агінскіх на фасадзе кляштара можна было пабачыць яшчэ на пачатку XX стагоддзя). Каля 1761 года князь Тадэвуш узвёў сваім коштам у Віцебску на месцы колішняй "старой і апалай" новую драўляную уніяцкую царкву ў гонар Св. Тройцы на Пескаваціку. Згаданы год для князя быў азмрочаны смерцю жонкі, і хоць Ізабэла была пахавана ў Маладзечне, цалкам магчыма, што віцебская фундацыя была выклікана гэтай сумнай прычынай. Як некалі яго дзед -- фундатар Троіцкай царквы Маркава манастыра -- князь Тадэвуш абраў для ўзвядзення новага храма ўзор мясцовай школы драўлянага дойлідства, якая за той час перацярпела ўжо пэўную эвалюцыю ў сваім развіцці (пры захаванні агульнай крыжова-цэнтрычнай кампазіцыі храмаў асобнымі шатровымі вярхамі пакрываліся толькі цэнтральныя часткі ды званіцы на галоўным фасадзе). Нават у найменні царквы прасочваецца тэндэнцыя на пераемнасць традыцыі роду. Каб пазбегнуць пэўнай блытаніны ў назвах (у Віцебску было некалькі цэркваў Св. Тройцы), храм, узведзены на сродкі князя Тадэвуша, у народзе ў хуткім часе сталі называць царквой Чорнай Тройцы. Прастаяла царква да пачатку XX стагоддзя і адной з першых у Віцебску спецыялістамі Інбелкульта была прызнана за помнік старажытнабеларускага дойлідства. Аднак калі літаральна праз некалькі тыдняў пасля агляду камісіі ў царкве абрынуўся спарахнелы ад часу шатровы дах сяродкрыжжа, сродкаў на аднаўленне храма-помніка не знайшлі.

З далучэннем горада да Расейскай імперыі паступова абрываюцца ўсе сувязі, што звязвалі род Агінскіх з Віцебскам. Недзе на мяжы XVIII і XIX стагоддзяў неяк непрыкметна знікае з твару горада некалі славуты дом Агінскіх. У 1820 годзе быў зачынены віцебскі езуіцкі калегіум, а яго манахі высланы за межы імперыі. З цягам часу ўвесь комплекс колішняй езуіцкай калегіі разам з касцёлам быў перададзены праваслаўным. Былы касцёл Св. Юзафа стаў называцца Мікалаеўскім саборам, у памяшканнях былой калегіі размясціўся архірэйскі дом. У кучу будаўнічага смецця і друзу сабор быў ператвораны летам 1957 года, па загаду руплівых гарадскіх уладаў быў знішчаны цудоўны помнік архітэктуры эпохі барока, размецены па свеце косткі некалькіх пакаленняў славутага княжацкага роду.

Пакрысе сярэднявечная гісторыя горада вяртаецца да віцябчан. А разам з ёю вяртаецца памяць пра тых, чыімі рукамі і лёсамі яна рабілася.

**Людміла ХМЯЛЬНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: Рэмбрант. "Лісоўчык" ("Польскі вершнік"). Каля 1655 года; дом князёў Агінскіх паводле "Чарцяжа" Віцебска 1664 года.**





# УЛАСНЫМ НАТУГАМ ДА ВОЛІ

Графічны партрэт, які выпраменьвае цяпло і дабрыню, бела-чырвона-белы сцяг, як сімвал незалежнасці, лозунг "Дык не чакай жа піскуль дапамогі, уласным натугам да волі ідзі!". Так сціпла, але з густам і змястоўна была афармлена сцэна Мінскага дома літаратара на вечарыне, прысвечанай 100-годдзю з дня нараджэння вядомага грамадскага дзеяча, паэта, публіцыста Кастуся Езавітава. Яна адбылася напярэдадні 76-х угодкаў БНР, 22 сакавіка, у дзень сумных для беларускага народа падзей — 50-годдзя хатынскай трагедыі і 130-годдзя з дня пакарання смерцю Кастуся Каліноўскага. Супадзенне хоць і выпадковае, але сімвалічнае і сугучнае трагічнаму і пакутніцкаму лёсу юбіляра. Але як сказаў народны паэт Ніл Гілевіч: "Дзякуй Богу, што мы маем магчымасць вяртаць з забыцця імёны людзей, якія столькі зрабілі для нашай Беларусі, што заслужылі ўсенароднага ўшанавання, месца ў нацыянальным пантэоне. Даведваўшыся шмат пра што за апошнія гады, кожны з нас з пашанай і ўдзячнасцю думае пра гэтых людзей. Ім было невераґодна цяжка. Цяжэй, чым нам цяпер. Але яны верылі ў лёс нашай Бацькаўшчыны. Нам дарагая іхняя вера".

Даследчык гісторыі, публіцыст Анатоль Сідарэвіч гаварыў пра Езавітава-палітыка. Ён звярнуў увагу прысутных на лозунг-заклік і законны сваё выступленне словамі: "Крэда Езавітава — наша крэда".

На вечарыне, якую вяла пісьменніца Вольга Іпатава, выступілі бібліёграф Валеры Герасімаў, паэты Сяргей Панізьнік і Віктар Шніп, мастак, беларус з Латвіі Вячка Целеш, сябры цяпер ужо забароненага Беларускага згуртавання вайскоўцаў Мікола Статкевіч і Сяржук Чыслаў. Артысты прачыталі вершы і пераклады Кастуся Езавітава. У выкананні камернага хору Беларускага ўніверсітэта культуры прагучалі беларускія канты, "Малітва" на словы Н.Арсенневай, новая песня Ганны Казловай "Жыве Беларусь". Шкада, што на гэтай вечарыне не змог прысутнічаць па стану здароўя народны пісьменнік Васіль Быкаў ды адмовіўся прыняць удзел ва ўшанаванні памяці паэта-генерала ансамбль Міністэрства абароны Беларусі.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

*З НОВЫХ ПЕСЕНЬ*

# СЛАВА БЕЛАРУСІ

*Словы А. СТАВЕРА* *Музыка Я. ЯРАВОГА*



Вякамі стваралася наша дзяржава,
Пакуль прычакала світання зару.
І геній Скарыны, і Грунвальда слава
Нам шлях вызначалі: жыві, Беларусь!

Дружней, беларусы! Гучней, беларусы!
Гукайма: "Жыве Беларусь!"

У дружбе з усімі жыць будзем заўсёды,
Працоўную славу узвысім да зор.
У муках здабытае сонца свабоды
Для нас азарае Радзімы прастор.

Дружней, беларусы! Смялей, беларусы!
Шырокі прад намі прастор!

Пад сцягам Радзімы, пад гербам Пагоні
Мы выйшлі ў вялікі, славуты паход.
Каб гора не зналі бацькоўскія гоні,
Гуртуйся мацней, беларускі народ!

Дружней, беларусы! Мужней, беларусы!
Жыве беларускі народ!

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА



**18 красавіка, панядзелак**

### РУПЛІВЕЦ

Імя Яўстаха Піевіча Тышкевіча досыць вядомае ў навуковых колах. Ён належаў да старога беларускага роду. У іх лагойскім палацы мелася бібліятэка, галерэя, радавы архіў.

Я. Тышкевіч, як і яго старэйшы брат Кастусь, самастойна прабіваў дарогу ў навуку. Зрабіў для Беларусі ён нямала: заклаў падмурак навуковай археалогіі. Упершыню па скроневых кольцах, знойдзеных у жаночых пахаваннях, вызначыў арэал распаўсюджання культуры полацкіх крывічоў. Ён жа на мясцовым матэрыяле пацвердзіў "тэорыю трох эпох" (каменя, бронзы, жалеза) Х. Томсена. Я. Тышкевіч вывучыў увесь пахавальны абрад продкаў. Ён жа даследаваў гадавы цыкл народнай паэзіі. А выдаўшы "Апісанне Барысаўскага павета" (1847), даследчык першым у Беларусі даў узор універсальнага вывучэння асобна ўзятага рэгіёна. Гэта быў лепшы ўзор краязнаўчага даследавання ў першай палове XIX стагоддзя.

Найбольшым клопатам братоў Тышкевічаў, асабліва малодшага Яўстаха, стала справа адкрыцця агульнадаступнага, а ў пэўнай меры беларускага, музея. За рэалізацыю сваёй задумы Я. Тышкевіч узяўся яшчэ ў 40-х гадах XIX стагоддзя. Але толькі ў 50-х гадах яму ўдалося сабраць матэрыялы і адкрыць першую экспазіцыю Віленскага музея старажытнасцей, а пры ім Віленскую археалагічную камісію. Сам вучоны стаў кіраўніком музея і камісіі. З усёй Беларусі сюды паступалі новыя знаходкі. Арганізоўваліся ўсё новыя і новыя экспедыцыі ў розныя куткі нашага краю. Такая дзейнасць працягвалася толькі да паўстання 1863—1864 гадоў. А далей пайшлі чорныя дні "рэвізіі" і закрыццё музея. У ранейшым выглядзе ён перастаў існаваць.

У цяжкім узрушэнні вучоны пакідае Вільню і едзе да сваяка ў Біржы. Праз нейкі час ён яшчэ вернецца да краязнаўчай дзейнасці. Але гэта ўжо была ўспышка дагараючай лампады.

Усяго сябе аддаўшы беларускай культуры, Я. Тышкевіч спачыў на віленскіх Росах. Асэнсаваннем яго спадчыны і справы сталі займацца пазней. І, здаецца, назаўсёды. Руплівцы бясследна не знікаюць.

**Алесь КАХАНОЎСКІ, Генадзь КАХАНОЎСКІ.**

## УЗНАГАРОДА З БЯЛГРАДА

24-ты Міжнародны конкурс музыкальнай моладзі, які нядаўна праходзіў у Бялградзе, сабраў 27 удзельнікаў з ЗША, Англіі, Румыніі, Ізраіля, Расіі. Узрост музыкантаў — да 30 гадоў. Ані Шыбаевай — 15. У рэспубліканскім ліцэі пры Беларускай акадэміі музыкі яна займаецца ў педагога Яўгенія Пукста. Танклявая, усмешлівая, яна ўмее адным словам акрэсліць сітуацыю, вызначыць характар чалавека. А яшчэ ўмее працаваць і перамагаць. Менавіта яна, беларусачка, змагла "перайграць" югаславаў, якія выступалі дома.

— Аня, а ехаць адной у Югаславію не страшна было? Вайна ж...

— Не страшна. Па-першае, я была з мамай. Па-другое, выстралаў мы ні па дарозе, ні ў Бялградзе не чулі. Там цяпер сапраўднае лета. Уражанне такое, што ніхто ў горадзе не працуе, на вуліцах поўна людзей. Гуляюць...

— А як вас прымалі арганізатары конкурсу?

— Цудоўна! Мы жылі ў пяцізорным гатэлі. Кармілі вельмі смачна і вельмі многа. Кожны дзень — свежая пасцель. Праўда, не было радыё і тэлевізара. А шкада. Удзельнікаў конкурсу пастаянна здымалі для тэлебачання, журналісты бралі інтэрв'ю. Мова ў бялградцаў такая цікавая...

— Што ж, Аня, ты ўжо паспела стаць лаўрэатам міжнародных конкурсаў у Італіі і Германіі. Цяпер вось перамагла ў Югаславіі. Што ж далей?

— У чэрвені паеду на гастролі ў Германію. А далей — час пакажа.

**Жанна ВАШКЕВІЧ.**

## СПОРТ

### У ВЫШЭЙШУЮ ЛІГУ

Завяршылася юнацкае першынство свету па хакею. У галоўным матчы зборная Рэспублікі Беларусь сустрэлася з венграмі (гаспадарамі спаборніцтваў) і перамагла з лікам 5:3. У выніку — першае месца. Гэта перамога дае нашым хакеістам магчымасць выступіць у наступным годзе ў вышэйшай лізе чэмпіянату Еўропы.

### АБАКРАЛІ ЧЭМПІЁНАЎ

Скандал за скандалам. Здаецца, абкрадаць чэмпіёнаў Алімпійскіх гульняў і свету стала ў Беларусі справай заканамернай. Мы паведамлялі ўжо, што ўкралі аўтамабіль у гімнаста Віталя Шчэрбы. А нядаўна і ў канькабежца Ігара Жалязоўскага. І самае апошняе паведамленне: пасля замежнай паездкі гімнастка М.Лобач недалічылася многіх сваіх рэчаў ва ўласнай кватэры.

### І МЕДАЛІ, І ПУЦЁЎКІ

У Мінску прайшло першынство рэспублікі па міжнародных шашках. Усе прызавыя месцы занялі ветэраны, добра вядомыя ў свеце спартсмены: Анатоль Гантварг, Аляксандр Балякін, Міхаіл Кац. Яны, акрамя медалёў, завявалі пуцёўкі на першынство свету.

### УСЁ ВЫШЭЙ І ВЫШЭЙ

Удала складваецца гэты сезон для беларускай тэнісісткі Наталлі Зверавай. І калі раней найбольшага поспеху яна дамагалася ў парным разрадзе, то цяпер вызначаецца і ў адзіночным.

На апошнім міжнародным турніры, які прайшоў у ЗША, яна заняла другое месца.



Спецыялісты сцвярджаюць, што аэробікай можна займацца ўсім. Гэта адзін са спосабаў мець прыгожую фігуру, мацаваць здароўе. Аэробіка ў Беларусі набывае ўсё больш прыхільнікаў.

НА ЗДЫМКУ: на занятках аэробікай.

Фота Уладзіміра ВІТЧАНКІ.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 479. Падпісана да друку 11. 4.1994 г.